


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 7 (629)**
**Ліпень 2018 г.**


## Сьвяткаваньне Купальля ў штаце Нью-Ёрк

У суботу, 23 чэрвеня, беларусы зь Нью-Ёрку, Нью-Джэрзі ды іншых штатаў сабраліся ў парку-запаведніку Ўард-Паўнд-Рыдж каля мястэчка Крос-Рывэр, каб разам адсьвяткаваць традыцыйнае беларускае сьвята Купальле. Мясьціна там вельмі прыгожая, сярод пакрытых лесам пагоркаў, дзе непадалёку знаходзяцца вадасховішчы, што даюць ваду гораду Нью-Ёрку праз сыстэму вадаводаў, якія былі збудаваныя яшчэ ў XIX-м стагодзьдзі. У лясах водзяцца казулі, алені й нават чорныя мядзьведзі, нялічачы янотаў ды розных драбнейшых жывёлаў.

Першыя ўдзельнікі сьвяткаваньня сталі прыяжджаць ужо каля 11-й раніцы, ставіць намёты, рыхтаваць дровы. Сп-ня Валянціна Якімовіч прывезла сваю калекцыю аўтэнтычных строяў, кашуляў, спадніцаў, якія яна сама пашыла. Яна працягвае дапаўняць сваю калекцыю новымі вырабамі, якія ўдзельнікі імпрэзы, што ня маюць уласнай традыцыйнай вопраткі, апранаюць падчас сьвяткаваньня.

Сёлетняе Купальле было падрыхтавана Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня" разам з суполкаю "Беларусы ЗША. Разам лягчэй". Праграма дадаткова ўлу-

*заканчэньне на бачыне 3*



## Тыдзень Паняволеных Народаў

**FREEDOM FOR ALL CAPTIVE NATIONS**

**Join us in Parade & Prayer for the Freedom of ALL from Communism!**

**60th**




**ANNUAL**

**CAPTIVE NATIONS WEEK**

**JULY 15-22, 2018**

У нядзелю, **15-га ліпеня 2018 году**, адбудзецца

**Марш Паняволеных Народаў,**

што традыцыйна арганізуецца ў ліпені Камітэтам Паняволеных Народаў у рамках афіцыйна абвешчанага яшчэ ў 1959 годзе Тыдня Паняволеных Народаў – імпрэзы, якая прыцягвае ўвагу амэрыканскага грамадзтва да стану народаў, што паняволеныя камуністычнымі, а таксама пост-камуністычнымі ды кожнымі іншымі тыраніямі й дыктатурамі.

Збор у нядзелю, **15 ліпеня а 9-й гадзіне раніцы** ля **гатэля "Plaza"** *(Pultzer Fountain)* на **59-й вуліцы** і **5-й авэню**. Адтуль удзельнікі рушаць да **Катэдры сьв. Патрыка**, дзе адбудзецца імша за Паняволеныя Народы, а потым пройдуць Маршам да **59-й вуліцы** і **Калямбус Сыркл** *(Merchant's Gate/ Main Monument)*, дзе адбудзецца ўрачыстае адкрыцьцё Тыдня.

Ад самага пачатку ў імпрэзах Тыдня бяруць удзел прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі. Пасьля 1989-1991 гадоў большасьць этнічных арганізацыяў сябраў Камітэту Паняволеных Народаў, і ў тым ліку ўкраінцы, адыйшла ад актыўнага ўдзелу, мяркуючы, што свабода ўжо здабытая, і ёй нішто не пагражае.

Як бачым, гэтая "рэляксаваная" пазыцыя памылковая, і па дзьвух прычынах:

1. Свабода – гэта "штодзённы плебісцыт" (ніхто і нішто не згарантуе яе раз і назаўсёды).

2. Абавязак кожнага вызваленага народу – дапамагчы тым, хто застаецца паняволенымі. У кожным разе, запрашайце на гэтую імпрэзу вашых украінскіх, крымскататарскіх, расейскіх (не ачмураных пуцінскай прапагандай), зімбабвейскіх, віетнамскіх, кітайскіх, тыбецкіх, кубінскіх сяброў. Пашырайце інфармацыю, паведамляйце сябрам і знаёмым!

# Чэрвеньскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу 9 чэрвеня 2018 году на Мангэтане ў Доме Маракоў прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка даў кароткую інфармацыю пра арганізацыю для тых, што першы раз прыйшлі на сход, і зрабіў абвесткі пра наступныя імпрэзы, што ладзіць Згуртаваньне "Пагоня".

Затым адбылася прэзэнтацыя музычнага фільму "То-то-то" па матывах купальскай традыцыйнай абраднасьці. Напачатку прэзэнтацыі слова ўзяла сп-ня Віялета Кавалёва з Таронта, Канада, адна са стваральніц фільму, кіраўнічка фальклёрнага гурта "Яваровы Людзі". Яна зьяўляецца адной з найбольш абазнаных у беларускім фальклёры асобаў, яшчэ 17 год таму стварыла ў Таронта фальклёрны гурт, а наагул фальклёрам пачала цікавіцца яшчэ напачатку 1980-х гадоў, калі брала ўдзел у імпрэзах маладзёвага творчага згуртаваньня "Беларуская Сьпеўна-Драматычная Майстроўня".

Сп-ня Кавалёва коратка распавяла пра гісторыю стварэньня фільму, які эпізодамі здымаўся на працягу 5 гадоў. Гэта плён працы гурту "Яваровы Людзі", а таксама цэлай вялікай групы відэографаў, гукаапэратараў, рэдактараў, што на грамадзкіх пачатках дапамагалі зьняць і падрыхтаваць для гледача гэты фільм. Сп-ня Віялета Кавалёва раздала ўлёткі з кароткім зьместам фільму і таксама выдрукі з тлумачэньнем тэрмінаў і паняцьцяў, зьвязаных з Купальлем, а таксама з асноўнымі дзеючымі асобамі, што бяруць удзел у абрадзе. Здымкі фільму праходзілі ў прыгожай мясьціне – на сядзібе "Слуцак" каля Таронта, што належыць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Назва фільму "То-то-то" ўзятая ад прыпевак у адной з купальскіх песень. Віялета Кавалёва падкрэсьліла, што сюжэт фільму просты: хлопца і дзяўчыну, што кахаюць адзін аднаго, разлучаюць злыя сілы, але затым яны пераадольваюць нягоды й сыходзяцца ізноў. Можна сказаць, што галоўнымі героямі фільму зьяўляюцца народныя песьні. Прамоўца таксама адзначыла, што найлепшы спосаб глядзець фільм – нікуды не сьпяшацца, проста настроіцца і слухаць купальскія сьпевы. Віялета Кавалёва папрасіла прысутных падзяліцца пасьля фільму сваімі ўражаньнямі й заўвагамі.



Віялета Кавалёва

Затым адбыўся паказ фільму. Стужка пачынаецца з падрыхтоўкі да сьвята, са сцэнаў, калі Алеся і Міхась, галоўныя героі, прызнаюцца ў каханьні. Пачынаецца сьвята, карагоды і сьпевы. Алеся і Міхась ідуць шукаць папараць-кветку. На дарозе да іхнага шчасьця паўстае вядзьмарка зь нячысьцікамі, і на зачараванай паляне яны насылаюць чары на Міхася, сьціраючы Алесю зь ягонай сьведамасьці. На дажынках Міхась таньчыць і заляцаецца да другой дзяўчыны, а да Алесі сватаецца заможны кавалер. У дзень вясельля верная сяброўка Алесі прыносіць пояс Міхася, які скралі нячысьцікі, чары разбураюцца, закаханыя зноў трапляюць у абдымкі адно аднаму. Фільм прадстаўляе традыцыйныя сьпевы і танцы, а таксама традыцыі й абрады.

Затым, пасьля фільму, прысутныя задавалі пытаньні пра купальскі абрад, пра тое, як здымаўся фільм, ці выстаўляліся ў сеціве ягоныя вэрсіі. Таксама прагучала прапанова сп-ні Ганны Шарко дадаць у тытры фільму назвы песень, якія гучаць у фільме "То-то-то".

Затым адбылася лятарэя, у якой былі разыграныя некаторыя творчыя вырабы беларусаў Канады, зьвязаныя з фальклёрам. Прысутныя маглі таксама набыць вышываныя саколкі, кампакт-кружэлкі з народнымі песьнямі і з фільмам "То-то-то". Сп-ня Віялета Кавалёва адзначыла, што беларусы Канады будуць праводзіць Купальскае сьвяткаваньне ў ліпені сёлета, запрасіла жадаючых далучыцца.



Прэзэнтацыя фільму, а таксама інфармацыя пра народныя абрады былі зь цікавасьцю сустрэтыя прысутнымі, што мелі нагоду працягнуць знаёмства зь Віялетай Кавалёвай ды іншымі гасьцямі Згуртаваньня "Пагоня" пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Сьвяткаваньне Купальля ў штаце Нью-Ёрк

*заканчэньне з бачыны 1*

чала валейбол і футбол, гульню "Пошук папараць-кветкі" на ўзор вядомай гульні "Пошук скарбаў", спартыўную бег-эстафэту пад назваю "Бітва княстваў", урок беларускай мовы й дыктоўку.

Перад пачаткам сьвяткаваньня ўдзельнікі ў традыцыйных строях або ў белых саколках з арнамэнтам сабраліся вакол слупа з колам і складзенымі дровамі. Сп-н Якімовіч распавяла пра ход імпрэзы, яе "лібрэта", і пра сэнс адзначаньня Купальля, як сьвята летняга сонцастаяньня для нашых продкаў, пра сымбалізм купальскіх сьпеваў і гульняў.

Прысутнымі былі абраныя Князь-Купаліш Анатоль і Купалінка Паліна. Яны ўдвух запалілі агонь абрадавага вогнішча, вакол якога ўдзельнікі пад кіраўніцтвам сп-ні Якімовіч вадзілі карагоды й сьпявалі купальскія песьні, у тым ліку знакамітыя "А хто на Купальлі...", "Купалінка", "Ой рана на Івана", "Гарэла сасна, палала".

Лічыцца, што калі купальскі слуп падгарае і валіцца, дык тая асоба, у чый бок ён паваліўся, у гэтым годзе ажэніцца ці выйдзе замуж. Затым спалілі ляльку Марэну, як сымболь злых цёмных сілаў. Потым былі традыцыйныя гульні, "Падушачка", "Цяцерка", "Баяры", калі хлопцы звычайна бліжэй знаёміліся зь дзяўчатамі.

Калі ўжо стала зусім цёмна, нячысьцікі скралі Купалінку, а Князь-Купаліш і ягоная дружына выправіліся на пошукі. Калі ўжо дагарала вогнішча, Купалінка была знойдзеная, і жадаючыя мелі мажлівасьць паскакаць праз вагонь, што мела некалі сымболіку ачышчэньня, пазбаўленьня ад грахоў. Частка ўдзельнікаў сьвяткаваньня выправіліся таксама зрабіць ачышчэньне вадою ў адным з вазёраў непадалёк.

Хутка пасьля гэтага быў гатовы традыцыйны напой на 27 травах – крупнік, з алькаголем і без.

Пасьля пры вогнішчы прысутныя пад запеў Валянціны Якімовіч і Лены Рыжай сьпявалі купальскія ды іншыя беларускія песьні, і Сяржук Сокалаў-Воюш засьпяваў шэраг беларускіх традыцыйных сьпеваў, а таксама некалькі ўкраінскіх. Сьпевы і размовы ля вогнішча цягнуліся амаль да сьвітаньня.

Назаўтра, 24 чэрвеня, пасьля сьнеданьня жадаючыя выбраліся на экскурсію ў лес уздоўж маляўнічай ракі. Іншыя гулялі ў валейбол і футбол, частка прысутных выправілася пакупацца ў возеры. Прыемны адпачынак цягнуўся амаль да вечара.

На колькасьць удзельнікаў імпрэзы паўплываў прагноз надвор'я на выходныя, але, нашчасьце, дажджу не было, і ў нядзелю выйшла сонца. Усе ўдзельнікі Купальля выказвалі сваё захапленне народным сьвятам і задавальненьне ягонай арганізацыяй.



Падзяка ў арганізацыі Купальля і, зьвязаных зь ім, падрыхтоўчых захадаў, у падтрыманьні гэтай старадаўняй нацыянальнай традыцыі далёка ад Бацькаўшчыны, належыцца сп-ні Валянціне Якімовіч, сп-вам Ганьне Шарко і Аляксандру Мазгавому, Лене і Пятру Рыжым, Алене і Юрыю Кавальчукам, а таксама Натальлі Хаткоўскай, Анатолю Цяценькіну, Сяржуку Саю, Паліне Усовіч, Яўгену Іванюку.

***Віталь ЗАЙКА***

*Фатаздымкі Сержа Трыгубовіча*



# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Bulbash Authentic Spirit

Люблю гэтую сваю лянівую рубрыку “Галгатня пра ЗША”. Куды не павернешся, за што ня возьмешся, дзе не калупнеш – усюды тырчыць Амэрыка. Што, натуральна, ня можа не ўплываць на папулярнасьць розных кансьпіралягічных тэорый і закулісных змоваў. Сусьветная закуліса – рэальнасьць ці параноя? Калі жывеш усё жыццё ў адной краіне і ўвесь час бярэш інфармацыю з адной, папулярнай крыніцы, то, безумоўна, сусьветная закуліса будзе здавацца паранояй. Але дастаткова трохі паезьдзіць па сьвеце, вывучыць хаця б дзьве-тры замежныя мовы, навучыцца чэрпаць інфармацыю зь некалькіх, часам зусім процілеглых крыніцаў, уключыць крытычнае мысьленьне, каб убачыць, што пэўныя мэханізмы ў сьвеце абсалютова аднолькавыя і задзейсьненыя ў бальшыні краінаў глябальнага сьвету. Ці такая каардынацыя была б магчымай без закулісьнай змовы – невядома. Але вядома тое, што калі мэйнстрымная культура і ўвесь гэты плянктон, які яе абслугоўвае, увесь час закулісную змову абсьмейвае, то гэтага ўжо дастаткова, каб крытычна задумацца.



Вось вам новая справа – “Поедем, паедим”, шыкоўная рэстарацыя ў Курапатах. Хто мог падумаць, што такое магчыма. Калі ласка! Трохі капнулі розныя блёгеры, аказваецца, вушы ў гэтага бізнэсу тырчаць з Ізраіля, а хвасты зь Нью-Ёрку і славутых кіпраўскіх афшораў. Некаторых за гэтыя знаходкі нават пасьпелі западозрыць у антысэмітызме. Мяне ж зацікавіла іншае. Гляджу на дызайнэрскае афармленьне рэстарацыі і бачу пэўную яе сыстэматызаванасьць. Вока са зрэнкай выкладзенае з бутэлек, раскярэчаная, сымбалічна ўкрыжаваная на столі карова-карміцелька, зь вялізным вымем і цыцкамі, з рагамі і вушамі Бафамэта, характэрныя пірамідныя формы вокнаў і дахаў, эстэтыка і разьмяшчэньне розных будынкаў, платоў і брамы ўстановы, канаты з завязанымі шнурамі, якія гайдаюцца ў паветры, загадкавы надпіс каля барнай стойкі “Bulbash Authentic Spirit”. І тут у мяне наступае эўрэка – успамінаецца славуты “Spirit Cooking Dinner”, афёра, якая адправіла старую, хворую Клінтаніху ў небыцьцё. Тую цёмную справу, канешне, так і ня выпусьцілі ў галоўную мэдыйную плынь, але той хто хацеў, той даведаўся. Афёра заключалася ў тым, што адзін з асноўных людзей у выбарчай кампаніі Клінтаніхі, Джон Падэста, як вынікала з асабістай перапіскі Гіляры, якую выпадкова атрымалі інтэрнэт гакеры, быў частым госьцем на акультных вечарынках псэўдамастачкі Марыны Абрамовіч. Пад выглядам пэрформансаў і ў рэчышчы найгоршых прыкладаў сучаснага, так званага, мастацтва, тая ладзіла розныя вычварэнствы з крывёю, вантробамі і іншымі вампірскімі прыбамбасамі, а ва ўсім гэтым ахвотна ўдзельнічалі многія прадстаўнікі культурнага сьвету, Галівуду і, вядома ж, палітычнай эліты Вашынгтону.

Што звязвае “Spirit Cooking Dinner” з “Bulbash Authentic Spirit” апрача загадкавага падабенства назвы? Магчыма тое, што можна назваць масонскай эстэтыкай. Магчыма, рытуальныя, аля-канібалістычныя практыкі, якія часьцяком прыпісваюцца гэтай зьяве рознымі дасьледчыкамі і аматарамі закулісных тэорый. Падазрэньне выклікае тое, што месца для дзіўнай рэстарацыі выбрана менавіта на масавым пахаваньні. Голым вокам бачна, што бізнэс гэты ў мясцовых умовах прыбытковым быць ня можа. Мільёны афшорных даляраў, укладзеныя ў гэтае месца, відавочна, не дзеля гэтага. Відавочна таксама, што “Поедем, поедим” як магнітам прыцягвае розных тыпаў з-пад цёмнай зоркі, якія сваім выглядам нагадваюць герояў фільмаў пра вампіраў. Месца, як аказваецца з найноўшай інфармацыі, было выбранае таямнічымі ўласьнікамі зусім невыпадкова. $117 за арэнду такога кавалка зямлі на менскай кальцавой выклікае падазрэньні, што ў гэтага пэрформансу ёсьць свае прыхільнікі сярод гарадзкіх уладаў.

Якія рэальныя ці сымбалічныя ахвярапрынашэньні адбываюцца ўсярэдзіне, у позьні час ночы, або перад важнымі культавымі датамі календара, гэта ўжо іншая справа. База для тэорыі створаная. Далей разьвівайце або абсьмейвайце самастойна. You're welcome!

***Віталь ВОРАНАЎ***

---

**Уплаты ў Згуртаваньне**

**Складкі й ахвяраваньні:**

Ю. Акуліч ................ 60
У. Касак .................. 60
С. Крышталёў ............ 60

**Усім шчыры дзякуй!**

---

*Паважаныя **Д. Гурыновіч, І. Кудзінаў, А. Якубенка, А. Яфімава,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

---

***Шаноўныя сябры!** Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на “Весткі й Паведамленьні”. (**інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча**).*

---

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **15-га ліпеня 2018 году** ў Цэнтральным парку на Мангэтане пасьля Маршу Паняволеных Народаў і пройдзе па скарочанай праграме.

***(Гл. абвестку на першай бачыне)***

Месца збору для сходу на пагорку ля вялікага возера (*The Lake with Boating*) з чаўнамі (паляна знаходзіцца на поўнач ад *Terrace Drive* і на захад ад *The Mall at Bethesda Fountain*) ля вялікіх скалаў-валуноў.

---

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

Ю. Акуліч ................ 30
У. Касак .................. 30
С. Крышталёў ............ 30
К. Кузьменка ............ 30

**Шчыры дзякуй!**

---

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*